# КАСУЕЦЦА ЯШЧЭ АДНА НЕСПРАВЯДЛІВАСЦЬ

Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.

за сталом, сядзіць наш Максім і піша новыя творы. І не ездзіў ён ні ў якую Ялту і не паедзе, бо ён не можа пакінуць сваю гаротную, як і сам, Айчыну. І бачу, як ідуць да яго Зоська Верас, якой, дзякуй богу, у наступным годзе споўніцца сто гадоў, Аркадзь Смоліч, Змітрок Бядуля, Лявон Заяц і ўсе, каму баліць душа за родную зямлю. І чытаюць яны вершы і мараць пра незалежную Беларусь. Максім слухае сяброў, а затым дэкламуе ім новыя творы: паэму «Страцім-лебедзь» і «Пагоню». Ён не ведае, што пройдзе час, і яго «Пагоня» стане для нацыянальна свядомай моладзі гімнам беларускага Адраджэння, але ён ведае, што так жыць, як жыве яго народ, больш нельга...

...На адкрыцці «Беларускай хаткі» выступілі дырэктар музея М. Багдановіча Алесь Бяляцкі, загадчык філіі Эдуард Акулін, пісьменнікі Максім Лужанін, Сяржук Вітушка. У выступленнях было адзначана, што з адкрыццём гэтай філіі касуецца яшчэ адна несправядлівасць, калі ад нашай літаратуры былі аддзелены многія выдатныя пісьменнікі, і ў іх ліку Максім Багдановіч, якога называлі і дэкадэнтам, і ўпаднікам, і сімвалістам.

Нягледзячы на спякотны дзень, ля «Беларускай хаткі» сабралася шмат народу, а ў суседніх гмахах людзі павыходзілі на балконы, каб паслухаць бессмяротныя творы Паэта. Але калі загучалі купальскія песні, з аднаго балкона на ўсю моц зароў магнітафон. Што ж, яшчэ не перавяліся людзі, якія гатовы не толькі глушыць галасы замежных радыёстанцый, а і голас свайго народа.

У «Беларускай хатцы» можна пазнаёміцца з экспазіцыямі, прысвечанымі жыццю і творчасці З. Бядулі, А. Смоліча, Ядвігіна Ш., У. Галубка, Зоські Верас, А. Уласава і іншых заснавальнікаў гэтай «хаткі», паглядзець прадстаўленні старажытнага лялечнага тэатра «Батлейка».

Віктар ШНІП.



*Абразкі*

# ЧАГО МЫ ТЫКАЕМСЯ?

Праўду прыпавесць кажа: пустазелле не сеюць. Яно само расце. Тое ж самае і пра моўнае пустазелле. Колькі мы яго напладзілі! Нават ужо не заўважаем, што яно і пустазелле. Вось хоць бы гэтыя два словы: «тычыцца», «датычыцца». Ці які сход, ці якую кніжку, газеціну разгорнеш — скрозь толькі мільгае гэтае «тычыцца», «датычыцца»: *Гэта мяне не тычыцца..., што тычыцца згаданай праблемы..., што датычыць правапісу...* і г.д. Гэтак ужо растыкаліся, што, далібог, час прыслухацца, а ці гожа гэта гучыць? Ці няма ў нашай мове больш якога зграбнага выразу?

Прырода гэтых слоў зразумелая: яны — калькі з рускага «касаться» (датыкацца). І пераклад самога слова правільны. Але ж у рускай мове «что касается» выступае як ідыёма, фразеалагізм. І тут калькай не абыдзешся. Трэба шукаць рэзервы сваёй мовы. Папраўдзе, іх і шукаць не трэба. Яны — пад рукой. Рускамоўнай ідыёме «что касается» адпавядае беларускае спалучэнне «што да...» Вось як, на маю думку (дый не толькі маю), павінны гучаць і пісацца згаданыя тут прыклады: *што да згаданай праблемы..., што да правапісу..., што да мяне..., што пра мяне...* І ніякіх вам тут «тычыцца», «датычыцца».

Калі мы і сапраўды любім сваю мову, хочам, каб яна і напраўду была прыгожая, натуральная — запрашаю прыслухацца да нашых «тычыцца», «датычыцца». Калі нехта мне запярэчыць, са мною не пагодзіцца, каму дужа падабаюцца гэтыя «тычыцца», «датычыцца», то, калі ласка, — «тыкайцеся». Але не забывайма-ся: мова — гэта тая ж самая музыка. У ёй трэба таксама чуць фальш, адмаўляцца ад наноснага, ненатуральнага, спароджанага глухімі да слова людзьмі, хоць часам і надзеленымі вялікімі паўнамоцтвамі.

То, можа, зробім яшчэ адзін маленькі крок да вяртання мілагучнасці і натуральнасці нашай мове?.

Уладзімір СОДАЛЬ.

# І мяне зламалі

Чытаю «Наша слова» і плачу ад успамінаў. Ужо ў пяць гадоў я чытаў буквар на беларускай мове і ўсе родныя гэтаму радаваліся, не ведаючы, колькі прыніжэння, пакут, зняваг давядзецца мне праз некалькі гадоў перажыць. А ўсё пекла пачалося, як толькі пераступіў парог адной з мінскіх школ. І за што? За беларускую мову, на якой размаўляў. І мяне зламалі, і я пачаў старацца гаварыць па-руску.

Цяпер мне сорак гадоў, і я, не ведаючы гісторыі свайго народа, не размаўляючы на роднай мове, адчуваю сябе абкрадзеным, прыніжаным. Таму хачу запытаць, хто давёў мяне да духоўнай, а з 2 красавіка і да матэрыяльнай беднасці. І, думаецца, што лепш за Уладзіміра Караткевіча пра нас, беларусаў, ніхто не сказаў:

...Край згубіў сваю мову<br>
І матчынай песні напеў...<br>
Нельга верыць у бога,<br>
Калі ён такое дазволіў.<br>
Цяжка верыць у люд свой,<br>
Калі ён такое сцярпеў.

Маёй дачцы годзік, жонка размаўляе з ёй толькі на беларускай мове. Аднойчы мяне ахапіў жах: няўжо дачку чакае такі ж лёс, як і мяне? Мяне хвалюе, як яна будзе кантактаваць з дзецьмі, бо не сакрэт, што многія холадна ставяцца да беларускай мовы. Але я не магу і не радавацца, бо мая дачка будзе ведаць сваю родную мову, без якой немагчыма адраджэнне нашай зямлі, нацыі, культуры.

Пётр ЯСКЕВІЧ, рабочы.

## З КАМПЕТЭНТНЫХ КРЫНІЦ

# Калі будзе папера

**Нашы чытачы звярталіся ў рэдакцыю з пытаннем: што робіцца ў рэспубліцы з выданнем слоўнікаў беларускай мовы? Першы намеснік старшыні Дзяржкамвыдата БССР С. А. Нічыпаровіч паведамляе, што ў гэтым годзе ўжо выпушчаны «Руска-беларускі слоўнік» (500 тысяч экземпляраў), «Слоўнік гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі» Я. М. Камароўскага (100 экземпляраў). На 1991 год запланаваны «Беларуска-рускі слоўнік» С. М. Грабчыкава (300 тысяч экземпляраў), «Руска-беларускі фразеалагічны слоўнік» І. А. Кісялёва (150 тысяч экземпляраў), «Слоўнік эпітэтаў беларускай мовы» (30 тысяч экземпляраў), «Русско-белорусский разговорник» А. Е. Міхневіча, «З народнай фразеалогіі: Дыферэнцыяльны слоўнік» А. Я. Лепешава, «Слоўнік амонімаў беларускай мовы» В. Д. Старычонка, слоўнік-даведнік «Кіраванне ў беларускай і рускай мовах» А. В. Арашонкавай, В. П. Лемцюговай, «Руска-беларускі слоўнік» у 2-х тамах (на апошнія пяць выданняў канчатковы тыраж яшчэ не вызначаны).**

**Дзяржкамдрук прымае меры, каб выдавецтвы змаглі выпусціць запланаваныя выданні. Аднак пытанне з паперай стаіць вельмі востра, бо для выканання дзяржзаказу Дзяржснаб БССР ужо недадаў болей за 4 тысяч тон.**

## АМАТАРАМ ВАЙСКОВАЙ ЛЕКСІКІ

**У час, калі войска не ў пашане, калі і ў войску, як і ў грамадстве, бяда адна не ходзіць, ці не след дбаць пра культуру, пра чалавечую годнасць, пра высакароднасць. Таму, відаць, і Маскоўскае ваеннае выдавецтва ўжо другім разам (а ўпершыню — летась) робіць чытачу добры падарунак — пяцідзесяцітысячным накладам выдае ў свет зборнік матэрыялаў, дакументаў і артыкулаў «Пра гонар і сумленне ў рускай арміі». Аўтары-складальнікі — Ю. А. Галушка і А. А. Калеснікаў.**

**Пішу пра гэтае выданне ў «Наша слова», таму што вельмі хочацца, каб на кнігу звярнулі ўвагу і нашы землякі. Не толькі беларусы-вайскоўцы, а і перакладчыкі, навукоўцы, усе, хто дбае пра адраджэнне беларускай тэрміналогіі.**

**Думаецца, што з цікавасцю звернуцца да зборніка і краязнаўцы, літаратары, якія пішуць на гістарычныя тэмы.**

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

Л. СЯМЕШКА

# У 1933-м І ПАЗНЕЙ

*Заканчэнне. Пачатак у №№ 18, 19, 20.*

Згодна з пастановай 1933 г. злучэнні ***тр, др*** у канцы іншамоўных слоў пачалі перадавацца без змен. Праект 1930 г. рэкамендаваў пісаць: ***літар, цыліндар***, дапускаючы, аднак, і напісанні *кадр, дыяметр, аэрометр*. Назоўнікі тыпу ***пралетары, бары, алюміні*** замяніліся формамі *барый, алюміній* і падлягалі скланенню па тыпу назоўніка ***май***. Замацоўваюцца таксама формы назоўнікаў са значэннем асобы з суфіксам ***-іст***, якія першапачаткова ўжываліся ў беларускіх выданнях як назоўнікі з нулявым канчаткам: *сацыяліст, журналіст*, а пазней, к сярэдзіне 20-х гадоў, сталі афармляцца па прыметнікаваму скланенню: *марксісты, марксістага, марксістаму*. Прапанову скланяць іх не як прыметнік, а як назоўнік тыпу *брат* выказвалі ў заўвагах да праекта 1930 г. С. Некрашэвіч і Я. Купала.

Такім чынам, у адрозненне ад асноўных палажэнняў першых 2-х раздзелаў урадавай пастановы (правапіс галосных і зычных у беларускіх словах), якія выніказі з арфаграфічнай канцэпцыі папярэднікаў, правілы напісання іншамоўнай лексікі значна разыходзяцца з прапановамі беларускіх мовазнаўцаў 20-х гадоў, якія імкнуліся перадаваць запазычанні бліжэй да мовы-крыніцы. Рэформа ж 1933 г. у большай ступені падводзіла напісанне запазычаных слоў пад агульныя правілы беларускага правапісу.

### 12. ПРОЗВІШЧЫ І ГЕАГРАФІЧНЫЯ НАЗВЫ

Чацвёрты раздзел пастановы 1933 г. (17-е пал.) рэгламентаваў **правапіс уласных імёнаў, прозвішчаў і геаграфічных назваў**. Упершыню правапіс гэтага разраду слоў разглядаўся правапіснай камісіяй. Пры вызначэнні іх напісання аўтары праекта 1930 г. зыходзілі з падзелу гэтай лексікі на 3 групы: 1) беларускія ўласныя імёны — запісваюцца беларускім правапісам з захаваннем мясцовых асаблівасцей: *Стралкоўскі, Рабцэвіч, Ганчарэнка*. У дакументах і афіцыйным абыходку замест памяншальных *Ясь, Ігнась* і г. д. ужываць поўныя формы *Ян, Іван, Базыль, Васіль, Міхаіл, Міхал* і г. д.; 2) іншаславянскія імёны — запісваюцца беларускім правапісам з перадачай акання, зацвярдзелых, дзекання, цекання, «ў» замест «в»: *Катлярэўскі, Ціханаў, Шаўчэнка*. Іншая фанетызацыя не дапускалася: *Талстой*, а не *Таўсты*, *Поздньшаў*, а не *Позньшаў*, *Счастліўцаў*, а не *Шчасліўцаў* і г. д.; 3) неславянскія імёны пішуцца паводле агульнага напісання іншамоўных слоў, прынятага ў беларускай мове.

Пастанова 1933 г., замацоўваючы 1-ы і 3-ці пункты правіла ў такой жа рэдакцыі, рэкамендуе і правапіс іншаславянскіх імёнаў падпарадкаваць правілам, прынятым для іншамоўных агульных імёнаў, напрыклад, перадаваць аканне, але з захаваннем *э(е)*: *Шаўчэнка, Чарнышэўскі* і г. д. (г. зн. аб'ядноўваюцца 2-гі і 3-ці пункты). Акрамя таго, пастанова ўключае яшчэ адно палажэнне, якое супярэчыць папярэднім правілам: «Імёны іншамоўных моў і геаграфічныя назвы не перадаваць як у поўным напісанні, так і ў скарочаным; захоўваць пачатковыя *О, В, Т, Сч: Орджанікідзе, Терэхаў і г. д.* Гэтая супярэчлівая па сваёй прыродзе норма была пазней адменена. Такім чынам, відавочна, што рэформа 1933 г. не здымала праблемы правапісу ўласных імёнаў. У пэўнай ступені гэта абумоўлена тым, што сама праблема даволі складаная. У ёй перакрыжоўваюцца як аб'ектыўныя, так і суб'ектыўныя фактары, як уласна лінгвістычныя, так і пазамоўныя (сацыялагічныя, нацыянальныя, эстэтычныя і г. д.). І сёння яшчэ пытанні транслітэрацыі (перадачы літар адной пісьменнасці літарамі другой) на беларускую мову запазычаных уласных імёнаў далёка не вырашаны і патрабуюць далейшай рэгламентацыі.

### 13. У 1957-м...

Распрацоўка новага правапісу выйшла за межы ўласна арфаграфіі і закранула таксама некаторыя пытанні марфалогіі. Пасля выхаду граматыкі Тарашкевіча, свядома арыентаванай на варыянтнасць, дублетнасць многіх марфалагічных форм з мэтай далейшага выяўлення тэндэнцый развіцця беларускай літаратурнай мовы, пытанні граматычнай нармалізацыі, у прыватнасці, правапісу канчаткаў зменных часцін мовы, заставаліся актуальнымі. Неабходна было распрацаваць сістэму адзіных граматычных форм шляхам адхілення варыянтаў вузкадыялектнага паходжання. Аднак не ўсе нормы, кадыфікаваныя рэформай, вытрымалі праверку часам. Некаторыя з іх былі адменены пастановай 1957 года.

Так, новы правапіс у адпаведнасці з граматычнай традыцыяй вызначаў межы ўжывання канчаткаў назоўнікаў *-а, -у* ў родным склоне адзіночнага ліку ў залежнасці ад семантычных і граматычных прымет назоўніка. Але перавага аддавалася канчатку *-а*. Са сферы выкарыстання канчатка *-у* выключаліся назвы грамадскіх фармацый, вучэнняў, а таксама назвы хімічных элементаў, хоць у мове існавала даўняя традыцыя ўжываць апошнія з канчаткам *-у*. Гэтае правіла было ўдакладнена ў 1957 годзе.

Рэформа 1933 года уніфікавала націскныя і ненаціскныя канчаткі назоўнікаў у давальным і месным склонах множнага ліку. Замест паралельных форм *калёсам, аб калёсах*, але: *палём, братом, аб палёх, аб братох* уводзіліся формы *калёсам, братам, палям, аб калёсах, братах, палях*.

Не вытрымалі праверку часам і былі пазней адменены уніфікаваныя рэформай 1933 года склонавыя формы лічэбнікаў мужчынскага і жаночага роду: *два, дзве*, але для абодвух родаў: *двум, двух* і г. д., а таксама замацаваныя ў якасці літаратурнай нормы вузкадыялектныя формы дзеясловаў 2-й асобы множнага ліку на *-эце (-еце)*: *ідзеце, нясеце, вядзеце*. (Выключаны былі формы тыпу *бераце, несяце* і г. д.).

Урадавая пастанова 1933 года замацоўвала ўжыванне ў беларускай мове дзеепрыметнікаў незалежнага стану цяперашняга часу на *-учы (-ючы), -ачы (-ячы)*. Увогуле ўпершыню гэтыя формы дзеепрыметнікаў уводзіліся граматыкай Тарашкевіча, дзе акрэсліваліся і сферы іх выкарыстання.

Абвяшчаліся агульнадзяржаўнымі, г. зн. абавязковымі для ўсіх, пэўныя нормы беларускага правапісу і граматыкі. Тым не менш, рэформа не вызваляла поўнасцю правапіс ад многіх нявырашаных пытанняў, асабліва ў складзе запазычанай лексікі, складаных слоў, уласных імёнаў і г. д.

Дзеля далейшага ўпарадкавання беларускага правапісу ў канцы 30-х гадоў распачалася новая дыскусія па пытаннях арфаграфіі, якая працягвалася і пасля вайны. Арфаграфічныя пытанні абмяркоўваліся на спецыяльных канферэнцыях, якія праводзіла ў 1950 і 1952 гг. Акадэмія навук БССР. Вынікі гэтага абмеркавання паказалі, што беларускі правапіс у сваёй аснове правільна адлюстроўвае заканамернасці беларускай літаратурнай мовы і таму не патрабуе новай рэформы. Неабходны толькі частковыя змены і ўдакладненні асобных правілаў. Арфаграфічная камісія, створаная на чале з Я. Коласам і К. Крапівой, распрацавала «Праект змен і ўдакладненняў беларускага правапісу» (апублікаваны ў 1951 годзе, дапрацаваны варыянт — у 1956 годзе), які і быў зацверджаны ў маі 1957 г. Саветам Міністраў БССР спецыяльнай пастановай «Аб удакладненні і частковых зменах існуючага беларускага правапісу».

З улікам пастановы 1957 г. быў выдадзены ў 1959 г. збор правілаў беларускай арфаграфіі. Для далейшай нармалізацыі правапісу вялікае значэнне мела выданне нарматыўнай граматыкі (1962, 1985), «Арфаграфічнага слоўніка» М. Лобана, М. Судніка (выд. 1-е, 1961, выд. 6-е, 1990), даведніка «Беларуская мова. Арфаграфія» Я. Камароўскага (1972), нарматыўнага «Слоўніка беларускай мовы» (1987) і інш.

Такая гісторыя арфаграфічнай рэформы 1933 года. Відавочна, рэформа з'явілася важным і неабходным крокам на шляху ўдасканалення беларускага правапісу. Была стабілізавана агульная арфаграфічная сістэма беларускай мовы, удасканалены і спрошчаны многія правілы правапісу.

## Людзі кажуць

### З найменняў Стаўбцоўшчыны

*Працяг. Пачатак у № 16.*

*Мікалаеўшчына* — назва вёскі.

Назва паходзіць ад імя князя Мікалая Радзівіла Чорнага. Сюды ён часта прыязджаў на паляванне.

*Амброжыкава гара* — поле непадалёк ад Нёмана, якое раней належала Амброзію Дземідовічу.

*Дземяноў гуз* — поле з курганом, раней належала Дзяму Семяняку.

*Прыстанька* — месца каля Мікалаеўшчыны, дзе ў 1906 годзе адбыўся з'езд настаўнікаў, у якім прымаў удзел Я. Колас.

*Смольня* — месца, дзе цяпер знаходзіцца музей Я. Коласа. Раней там была смалярня.

Запісала Алена БЕЛАЯ.

*Вірлавічы* — назва вёскі.

На думку некаторых жыхароў, паходзіць ад слоў «лавіць у віры». У рэчцы *Валмянцы* раней было шмат рыбы. Асабліва ж цанілася фарэль. А яе якраз і лавілі ў вірах — у месцах на рацэ, дзе вада круцілася, «віравала».

*Замасцяны* — назва вёскі.

Вёска за ракой. Каб даехаць да яе ад Вірлавіч, трэба пераязджаць цераз мост, і нават не раз. Такім чынам, гэтая вёска «за мастамі». Адсюль і яе назва — Замасцяны.

*Падсады* — назва вёскі.

Падсады добра відаць з Вірлавіч, бо размяшчаюцца на пагорку. Але іх дахаў здалёк убачыць нельга. Бачныя толькі густыя купы дрэў, садоў. Пабудовы ж вяскоўцаў схаваны «пад садамі». Вось так і атрымалася гэтая назва.

*Гарадзішча* — так называецца лес, які паласой цягнецца праз поле, як бы адгароджваючы Вірлавічы ад суседніх вёсак. І на самай справе, каб трапіць у вёску *Курачкі*, да якой напрасткі кіламетры два з паловай, прыходзіцца аб'язджаць вакол лесу, а гэта каля пяці кіламетраў.

*Гуртавое балота* — назва тарфяніку за вёскай.

Зараз там пакапаныя равы, а на месцы балота мясцовыя жыхары пасуць кароў. Раней там была балоцістая мясцовасць, якая нікому не належала, і таму туды ўсе прыганялі пасвіць сваю жывёлу, зганялі яе «ў гурт».

*Лаза* — гэта назва сенажаці каля рэчкі Валмянкі. На ёй шмат кустоў лазы.

*Майсоўшчына* — назва сенажаці. Калісьці тут быў хутар Мойсаў. Гэта быў адзін з самых аддаленых ад вёсак хутароў, і таму ласі, дзікі, ваўкі былі тут не гасцямі, а сапраўднымі гаспадарамі.

*Набароўшчына* — назва невялікага ўзвышша, дзе быў калісьці панскі дом, а потым у ім зрабілі школу. Цяпер на тым месцы можна адшукаць толькі рэшткі цагляных сцен і моцны каменны фундамент. А мясцовыя жанчыны ходзяць туды збіраць кмен і шчаўе.

*Сцюдзянец* — так называецца мясцовасць — сенажаць, выган і невялікі алешнік,— дзе стаяў хутар. Алешнік у Сцюдзянцы славіўся тым, што вечарамі там можна было бясконца слухаць салаўёў.

*Табун* — сенажаць, дзе раней пасвіліся табуны коней. Сёння ж можна пачуць ад вясковых мужчын: «Буду касіць у Табуне». Людзі, якія жылі раней у гэтай мясцовасці, славіліся сваёй працавітасцю і багатай гаспадаркай.

*Шашкіні* — назва балотаў.

Відаць, балоты тут былі сапраўды страшныя. Бо другую частку слова «кіні» мне растлумачылі як звязаную са словам «кінуць»: што кінеш, таго і няма. А вось першая частка назвы засталася для мяне невядомай.

Запісала Марыя КУЖОЎНІК.

(Працяг будзе).

# А мы сабе сеем...



*Год назад жыхары Малінаўкі, што ў Чэрыкаўскім раёне, пакінулі родную вёску. А на землях сумна вядомага саўгаса «Знамя», палова ўгоддзяў якога спісана, было створана новае навукова-вытворчае аб'яднанне «Надзея». Цяпер з зямель, што засталіся ў севазвароце, атрымліваюць фуражнае збожжа, узровень забруджанасці якога ў 2-3 разы перавышае гранічна дапушчальны. У абмен на гэта збожжа аб'яднанне атрымлівае чыстае насенне, якое вясной лягло ў забруджаную радыяцыяй глебу.*

*Хутка з гэтага насення вырасце новы ўраджай. І яго адправяць затым у іншыя гаспадаркі, скормяць жывёле. А тым часам з атрыманымі прадуктамі радыенукліды пападуць на стол спажыўца. Гэта ўжо, акрамя таго, што працуючы з забруджаным збожжам, вяскоўцы таксама атрымліваюць пэўную дозу.*

***На жаль, выпадак гэты не адзінкавы. Падобная інфармацыя паступае і з Гомельскай вобласці. Як доўга яшчэ мы будзем збіраць ураджай з забруджаных угоддзяў, перапрацоўваць яго ў камбікармы, а затым купляць радыеактыўнае мяса і малако ў нашых крамах? Пытанне гэта гучыць пакуль рытарычна. Але за яго рашэнне нясуць адказнасць канкрэтныя людзі, надзеленыя ўладаю. Магчыма, настаў час назваць іх імёны? А заадно — пакласці канец бязладдзю.***

***НА ЗДЫМКУ:*** *узровень забруджвання гэтага збожжа, на адгрузцы якога працуюць (злева — направа) С. Ганцалеў, О. Бежавец, В. Шляхценка і В. Князеў, перавышае гранічна дапушчальны ў 2,5 раза.*

Фота С. ЖАЛУДОВІЧА (БЕЛТА).

*Ваш Ко-Ко ў Вярхоўным Савеце*

# ПАРЛАМЕНЦКІЯ ПАКУТЫ

Пра мае пакуты гэты аповяд. Вы ж, відаць, заўважылі, што апошнім часам унадзіўся я хадзіць на пасяджэнні Вярхоўнага Савета, каб паслухаць разумныя спрэчкі шаноўных дэпутатаў. Доўга тлумачыць не буду, чым займаюцца ў зале пасяджэнняў народныя абраннікі. Галоўным чынам спрэчыва там ідзе ў двух накірунках. Абмяркоўваюць (бывае, ажно сварацца) або пытанне, як бы даць народу тое, чаго ён ніколі не меў, або спосаб, якім можна было б забраць тое, што гэты народ неяк прыдбаў. Гамоняць збольшага на расійска-мясцовай мяшанцы, але і па-беларуску прамовіць сёй-той не грэбуе. Ажно, здараецца, сыпане які-колечы звышразумнай гаворкаю. Вось тады я і крыўдую на сябе праз сваю непісьменнасць.

Зрэшты, спачатку я пра гэтых разумнікаў нягожа думаў: маўляў, менцяць нешта ні ў смык ні ў дуду. Але пасля дапетрыў: гэта ж, відаць, выйшаў я са школкі недавукам. А, мо, проста недапечаны, ці што? Нясцерпны гэты боль — пачувацца за дурня ў разумным хаўрусе. Лепш ужо па лычы атрымаць, чымся трываць, як які-небудзь сур'ёзны таварыш табе знянацку кворумам па кансенсусе чэкне ды рэферэндумам па плюралізме дасць. Чыста ўбрыкне ў самае балючае месца.

Адразу ж згадваецца, што ў нас з замежнымі словамі спрэс непрыемнасці. Спачатку ўжываем аддана, а пасля шукаем да іх нашыя родныя займеннікі. Гэтак рэвалюцыю пачалі называць разбоем. Рэпрэсія, кажуць, мае адпаведнікі — расстрэл і дзесяць гадоў без перапіскі. А мандаты — зусім не расійская лаянка. Праўда, да сённяшняга дня ніхто аніяк не адшукае адпаведнага слова для сацыялізму. Гавораць, цяжка растлумачыць гэтую з'яву на нашай мове, а брыдкія словы ўжываць нельга. Ім, разумнікам, добра, а мне дык як хочаш, так і думай. Ды такой бяды! Сацыялізм — справа мінулая. Зараз нібыта ў Саюзе іншых рэспублік збіраемся жыць. Ці то ў «суеверных», ці то ў «сувенірных», ці то «сурагатных»...— я ды мужыкі, мае суседзі, аніяк не навучымся вымаўляць гэтае слова. А таварышы дэпутаты тлумачаць яго неяк няўцямна. Нібыта ім шкада сказаць, што гэта ўрэшце такое. Дык вось, у гэтай «суарэнднай» рэспубліцы будзе прэзідэнт. Тое самае, відаць, што і старшыня, адно аклад большы займее.

Цяпер вы бачыце, як дрэнна быць дурнотаю накшталт мяне ды маіх суседзяў? Апроч крыўды на сябе, нічога ў сэрцы не абудзіцца. З такой прычыны, лічу, варта было б таварышам дэпутатам для гэтакіх, як я, недарэкаў ласку зрабіць. Прамаўляць, не надта мудруючы. Вядома, калі не вырашылі сваімі размовамі мяне ўшчэнт дабіць. Вось з шаноўнага Міколы Іванавіча няхай прыклад бяруць. Праўда, у ягонай гаворцы свае хібы. Часам не спрацоўвае правіла: хто как магёць, тот так і страміцца аб'ясніцца! Але галоўнае, што чалавек не мудрагеліць без меры, а стараецца па-простаму з усімі размаўляць. За гэта яму ўдзячны. А іншыя няхай пачырванеюць. І іхніх апраўданняў я слухаць не хачу. А будуць з апраўданнямі лезці, я ім словамі Міколы Іванавіча запярэчу:

«Ня нада абсуждаць вакруг этага вапроса!»

Ваш КО-КО.

## І смех і грэх

### УВОДЗІНЫ Ў СУЧАСНУЮ МІФАЛОГІЮ

*Усе чыталі пра тое, што ёсць міфы Старажытнай Грэцыі. Ды мала хто скажа, аб чым яны. Хто такі Зеўс? Артэміда? Дзе знаходзіцца «ахілесава пята»?..*

*Але ж міфы — гэта гісторыя. І культурны чалавек гісторыю Старажытнай Грэцыі павінен ведаць. У міфах шмат павучальнага, сюжэты старажытнагрэчаскага жыцця паўтараліся з веку ў век, змяняліся толькі імёны.*

*І пра нас калісьці напішуць легенды і міфы. Дык навошта гэтую далікатную справу давяраць патомкам? Раптам раскапаюць штосьці не тое і не там? Ці чарапкі не так складуць?!*

*Чаму б не прыдумаць міфы пра сябе дачасна?*

*Прапануем вам варыянт сучасных міфаў. Але каб ніхто не абвінаваціў у плагіяце, скажам адразу: гісторыі цалкам запазычаны ў старажытных грэкаў.*

### АЎГІЕВЫ СТАЙНІ

Прыйшоў Геракл да цара Эліды Аўгія, сына прамяністага Геліёса, і кажа: так, маўляў, і так, я, Геракл, па волі багоў павінен здзейсніць дванаццаць подзвігаў. Што вы мне можаце прапанаваць?

Жыхары Эліды абрадаваліся: «Дзякуй богу! Вось хто нарэшце вычысціць нашы Аўгіевы стайні!..»

Цар Аўгій, які суправаджаў Геракла, запрасіў:

— Калі ласка! Праходзьце! Як мы тут жывём — аднаму богу вядома! Затое якія магчымасці для подзвігу! Ваша задача — вычысціць Аўгіевы стайні.

Днём і ноччу да сёмага поту працаваў Геракл. І за суткі вычысціў стайні!

Жыхары Эліды выйшлі правесці героя. Цар Аўгій сказаў на развітанне:

— Шаноўны Геракл, прыходзьце ў любы час! Ведайце: у нас вы заўсёды зможаце здзейсніць подзвіг, і не адзін!

Геракл адказаў:

— Грамадзяне! Самі апратвайце свае стайні! Калі прыбіраць кожны дзень, дык нікому не трэба будзе здзяйсняць подзвіг!

— Чаму вы кепска пра нас думаеце? — спытаўся Аўгій.— Калі вакол чысціня і парадак — застанемся без герояў. А на чыіх тады прыкладах моладзь выхоўваць?! Адным словам, будзе патрэба ў подзвігах — калі ласка, просім! Памятайце: Аўгіевы стайні заўсёды адчынены для вас!

### ЦІКАВЫ СОН

Аўтобус шыбуе па лужынах. У напаўпустым салоне сутонне. Мне ехаць далёка, аж да канца, можна не сачыць за прыпынкамі. І ўвогуле, лепш ні на што не глядзець. На вуліцы імжа. Манатонна гудзіць рухавік. Прыплюшчваю вочы.

Раптам шафёр абвяшчае:

— Наступны прыпынак — пляц Вітаўта Вялікага.

Я спахапляюся (куды гэта мяне занесла?). У акне праплываюць шыльды: «Харчовая крама», «Зельня», «Кавярня», «Напоі і слодычы», «Дзіцячая вопратка», «Шынок «Грунвальд».

У непаразуменні звяртаюся да юнака, што сядзіць побач са мной, паглыбіўшыся ў кнігу:

— Гэта што, кіно здымаюць?

Не рэагуе. Мацней пытаюся:

— Куды я патрапіў?!

— У самы цэнтр,— усміхаецца хлопец.

На згаданай плошчы Вітаўта над дзяржаўнай установаю лунае белы сцяг з чырванню пасярэдзіне. Я зноў звяртаюся да майго суседа:

— А які зараз год?

Юнак хмыкнуў і ўнурыўся ў сваю кніжку, напэўна, вырашыў, што ў мяне не ўсе клёпкі ў галаве.

— Што ж ты такое цікавае чытаеш? — паварочваю вокладку да сябе і вачам не веру: шосты том поўнага збору твораў Алеся Разанава!

— Ну, а разумееш ты тут штонебудзь? — скептычна пытаюся.

— А няго ж! — суразмоўца відавочна крыўдзіцца.— Мы ў школе яго праходзім.— І перасядае на іншае месца.

Я зноў углядаюся за шыбу. Што за ліха! Стары горад аднавіць паспелі! Я выйшаў на прыпынку. Чыстыя брукаваныя вулкі, раўнюткія шэрагі дахоўкі, стромыя вяршыні барокавых сабораў (такія толькі на старых фотаздымках у часопісах бачыў). І лагодныя твары няспешных прахожых... Стаю, разявіўшы рот, сярод гэтага харaства і думаю: адкуль што ўзяцца магло?

— Эй, гражданин. Приехали! — торгае за плячук мяне той самы шафёр аўтобуса.— Вылезай-ка, мне в парк пора.

Азіраюся — праз цямрэчу прабіваецца святло ліхтароў у новым мікрараёне. Выходжу. Калі аўтобус, даўшы газу, пакідае мяне ў слоце кастрычніцкай ночы, прыгадваю дзённыя падзеі.

Вось дык сон прысніў! І не раcпавядзеш нікому, бо яшчэ за экстрэміста будуць лічыць, скажуць, што да змены грамадскага ладу заклікаў. Барані, Божа! Ну і прысніцца такое! Зрэшты, з чаго б такое?

Алесь КАРОЛЬ.

### ПАЧУТАЕ «У ЛЯВОНА»

1. ТАСС паведамляе: учора, пасля цяжкай хваробы, не прыходзячы ў прытомнасць, прыступіў да сваіх абавязкаў верны ленінец і выдатны тэарэтык марксізму...

(80-я гады).

2. У псіхалякарні сустракаюць камісію. Хворых паставілі ў два рады ў вестыбюлі. Калі правяральшчыкі туды ўвайшлі з вуліцы, першы рад радасна заспяваў: « Эх, хорошо в стране советской жить!»

Камісіянты строга дапытваюцца ў галоўнага ўрача: чаму другі рад не спявае?

— Ды гэта тыя, хто выздараўлівае! — растлумачыў урач.

(Пачынаючы з 30-х гадоў).

3. У калгасе агульны сход. На парадку два пытанні:

1) Рамонт даху ў кароўніку.

2) Будаўніцтва камунізму.

Старшыня калгаса кажа:

— Так як няма шыферу, адразу пераходзім да другога пытання!

(60-я гады).

4. У партшколе экзамены па эканоміцы сельскай гаспадаркі. Нядаўняму інструктару райкома задаюць пытанне:

— Вясной у калгасе сеем пшаніцу, кукурузу, авёс. Восенню што збіраць будзем?

— Пленум.

(60-я і пазней).

5. — Чаму так марудна ідзём да камунізму?

— Таму што пасля кожнага кампартыйнага пленума пачынаецца новы круты ўздым.

(60-я і пазней).



Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.

Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.

Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Наклад 5.174 паасобнікаў. Заказ 2450. Індэкс 74975.